# Мечыслаў Грыб ідзе ў Вярхоўны Савет разам з братам

**У Дзятлаўскай акрузе 129 апроч сьпікера Вярхоўнага Савету М.Грыба былі зарэгістраваныя яшчэ 5 кандыдатаў. Але напачатку гэтага тыдня двое зь іх адмовіліся балатавацца. Цікава, што прозьвішча аднаго зь іх таксама Грыб, завуць яго Іван Фларыянавіч (працуе старшынём Наваельненскага сельсавету). Невядома, ці сваяк ён Мечыславу Іванавічу і ці не зрабіў гэта на ягоную просьбу.**

Цяпер з Грыбам будуць змагацца наступныя кандыдаты: настаўнік фізкультуры Дзятлаўскай школы В.Петрыкевіч (кандыдат ад Грамады), загадчык акушэрскага аддзяленьня райбальніцы А.Шапарэвіч (ад АДПБ) і член ПКБ, старшыня калгаса "1 Мая", В.Сьцяпура.

Цікава, што у суседнім Шчучынскім раёне балатуецца кандыдатам ў Вярхоўны Савет родны брат М.Грыба Уладзімер Іванавіч Грыб. Ён працуе старшынём райкаму прафсаюзу працаўнікоў аграпрамысловага комплексу, беспартыйны, вылучаны сходам у калгасе "Чырвоны сьцяг".

С.МАКС

# Ці дапаможа кандыдатам песьня і малітва?

**Зразумела, што 600 тысяч рублёў, якія паабяцаў выдаць Цэнтрвыбаркам кожнаму кандыдату ў дэпутаты на рэкламу ўласнай пэрсоны, вельмі мала, каб належным чынам паказаць сябе выбаршчыкам. Таму даводзіцца ісьці на розныя хітрасьці. І прыклад тут паказваюць кандыдаты Лукашэнкі.**

Скажам, у Шклоўскай акрузе балатуецца першы памочнік прэзідэнта Ул.Канаплёў. Менавіта з гэтым фактам выбаршчыкі зьвязваюць падзею, якая адбылася тут у сераду 19 красавіка. У гэты дзень у Шклове быў грандыёзны канцэрт з удзелам вядомага кампазітара В.Раінчыка, "Верасоў" і "Песьняроў" на чале з Ул.Мулявіным. Канцэрт быў бясплатны, публіку прапускалі па запрашальных білетах, якія разьмяркоўваў старшыня акруговай выбарчай камісіі Ул.Клюйко.

А кампазітар Ігар Лучанок тым часам вымушаны змагацца сам за сябе. Аказваецца, ён таксама вырашыў стаць дэпутатам і балатуецца ў Мар'інай Горцы, што каля Менску, дзе акрамя яго зарэгістраваныя яшчэ 10 кандыдатаў.

Дарадца прэзідэнта па эканамічных пытаньнях А.Сазонаў балатуецца па Акадэмічнай акрузе ў Менску. Яго вылучылі без асаблівага шуму на Маргарынавым заводзе. Дзеля гэтага сходу нават часова спынілі вытворчасьць.

Рвануў у дэпутаты і першы намесьнік Ціцянкова (кіраўніка справамі прэзідэнта) А.Харужык. Ён вылучыўся ў Слоніме. Адну зь першых сустрэчаў ён меў у Жыровіцкім манастыры са сьвятымі айцамі, якія блаславілі сп.Харужыка на перамогу.

Віктар ВАЛАДАШЧУК

# Жырыноўцам таксама хочацца

**Суворaўская акруговая камісія Горадні адмовіла ў рэгістрацыі жыхару Менска Аляксандру Рабатаю, вылучанаму кандыдатам у Вярхоўны Савет беларускай філіяй партыі Жырыноўскага.**

Аднак Цэнтральная выбарчая камісія, куды ён зьвярнуўся са скаргаю, зарэгістравала яго.

У Горадні вылучаліся яшчэ тры жырыноўцы. Але адзін зь іх раптам зьняў сваю кандыдатуру. Гэта крыху вядомы юрыст Іосіф Вялента. Летась ён быў прызначаны начальнікам юрыдычнай службы адміністрацыі прэзідэнта, але неўзабаве быў звольнены за будаўніцтва катэджаў.

Адзін з жырыноўцаў балатуецца ў Карэліцкім раёне. Гэта супрацоўнік сакратарыяту Канстытуцыйнага суда нехта Ваўчок.

С.МАКС



Сяргей НАВУМЧЫК

# Іхныя рукі ўжо ў крыві

**Прамова Лукашэнкі на сэсіі ВС 12 красавіка у ступені фальсіфікацыяў пераўзыйшла ўсе ягоныя ранейшыя выступы. Былы лектар таварыства "Веды" добра засвоіў мэтады гёбэльсаўскай прапаганды: хлусьня чым болей неверагодная, тым болей эфэктыўная. (Ніжэй цытаты прэзідэнта паводле стэнаграмы.)**

***"Я сразу подумал о провокации"***

Некаторыя журналісты ўсьлед за прэзідэнцкім адміністратарам Сініцыным ужо пасьпелі абвінаваціць у ананімным званку дэпутатаў Апазіцыі. У якасьці аргумантаў нават прыводзіўся той факт, што яшчэ а 17-й гадзіне 11 красавіка радыё "Свабода" абвесьціла пра магчымасьць прымяненьня сілавых акцыяў у дачыненьні да дэпутатаў. Маўляў, адкуль зьвесткі, з чаго раптам такая апэратыўнасьць?

Гэта праўда: апэратыўнасьць зусім ня тая, што на дзяржаўным беларускім радыё. Але, разам са "Свабодай", інфармацыю перадавалі і найбуйнейшыя сусьветныя агенцтвы. "Белінфарм", натуральна, у гэтую катэгорыю не трапляе. Праўда, зайздросную прадбачлівасьць праявіла і камэнтатарка беларускай тэлевізіі сп-ня Муха: у сваім вечаровым рэпартажы яна некалькі разоў закцэнтавала ўвагу на тое, што прэзідэнт усё рабіў, каб вырашыць канфлікт мірнымі сродкамі. Не інакш — Касандра.

Пра тое, што супраць 19-ці дэпутатаў, якія абвесьцілі галадоўку, можа быць прыменена сіла, мы даведаліся ўдзень 11 красавіка ад людзей, імёны якіх абнародаваць тут не абавязкова. Мы былі зацікаўленыя ў тым, каб пазьбегнуць насільля, і таму імкнуліся папярэдзіць пра такую верагоднасьць як мага болей журналістаў. Нам здавалася, што ў Лукашэнкі і ягонай кампаніі яшчэ існуюць нейкія маральныя бар'еры і яны пабаяцца грамадзкай увагі. А 16-й гадзіне мы перадалі адпаведную заяву і М.Грыбу (гл. яе копію).

***"Кто дал право сюда эту женщину затащить и спрятать под кресло Мечислава Ивановича Гриба и этими мешками прикрыть?"***

Пасьля 18 гадзінаў прэзідэнцкая ахова запатрабавала ад журналістаў пакінуць залу. Зразумела, што бальшыня з акрэдытаваных у ВС замежных карэспандэнтаў зрабілі гэта неахвотна: журналіст мае права і абавязаны бачыць падзеі, пра якія піша, на ўласныя вочы. Дарэчы, і мы таксама былі зацікаўленыя ў прысутнасьці прадстаўнікоў прэсы: нам здавалася, што пры іх прэзідэнцкія людзі будуць вымушаныя паводзіць сябе больш прыстойна. Але застацца ўдалося толькі карэспандэнтцы радыё "Свабода" Алене Радкевіч.

А 23-й гадзіне, калі ў залу ўвайшла прэзідэнцкая ахова, Радкевіч знаходзілася за сталом старшыні ВС (бо менавіта на ім была настольная лямпа) і працавала над рэпартажам. Рукі ёй не круцілі, але выцягнулі з дыктафона касэту. На нашыя патрабаваньні вярнуць журналістцы яе рабочы матар'ял, ахоўнік адказаў катэгарычным "не". Гэта — парушэньне правоў журналіста, зафіксаваных у шэрагу міжнародных дакумантаў. Празь некалькі хвілінаў А.Радкевіч вывелі з залы і затрымалі.

***"Я ни на каких "Мерседесах" сюда не ехал. Наумчик говорит, что там флажок был в чехле... Флажок мой, на моем автомобиле, снимается, не зачехляется. И как Наумчик, если он здесь сидел, он не мог в час ночи выйти... Они просто физически не могли куда-то пройти, выйти и так далее... Поэтому, это вранье, что они видели тут, как на "Мерседесе" приехал Лукашенко..."***

Каля паловы першай ночы мы атрымалі інфармацыю, што Алена Радкевіч не вярнулася дахаты: яе апытвалі ў памяшканьні аховы. Некалькі дэпутатаў сыйшлі на першы паверх. Зрабіць гэта было вельмі проста, бо ўсе дзьверы былі адчыненыя. Міліцыя нават прапанавала мне выйсьці на плошчу, праўда, без гарантыяў вяртаньня ў залу. За цэнтральнымі дзьвярыма стаяла група журналістаў — інтэрвію давялося даваць праз зачыненыя шкляныя дзьверы. Журналісты паведамілі, што ў двор Дома ўраду праехаў картэж і ў прэзідэнцкіх пакоях запалілася сьвятло. Вяртаючыся па левай лесьвіцы, я зазірнуў за фіранкі — на пляцоўцы перад прэзідэнцкім пад'ездам стаяў лукашэнкаў "Мэрсэдэс", побач — міліцэйскія машыны. Шпіль для сьцяжка быў пусты (ня ведаю, якім чынам Лукашэнка зрывае ненавісны яму сімболь). Між іншым, празь некалькі хвілінаў прэзідэнцкі лімузін бачыў і Алег Трусаў. Знаходжаньне Лукашэнкі ў Доме ўраду — яшчэ адно пацьверджаньне таго, што ні ў якую "бомбу" яны ня верылі. Натуральна ж, Вярхоўны галоўнакамандуючы ня мог сабе адмовіць у задавальненьні асабіста кіраваць апэрацыяй па ўзброенай дэпартацыі сваіх палітычных апанэнтаў. Зрэшты, магчыма, прэзідэнцкі лімузін браў Іван Ціцянкоў. Пакатацца.



***"Мне Тесовец со слезами на глазах позвонил около 12 часов ночи и сказал: "Александр Григорьевич, не получается по-хорошему, повынимали ножи, достали лезвия... Первое, говорят — вскрываем вены, отрезаем себе головы и вас повырезаем, кровью зальем здесь все."***

Цікавае відовішча атрымліваецца: апазіцыянэры без галоваў, але з кінжаламі носяцца за прэзідэнцкімі ахоўнікамі... Амаль як у рамане Майн Рыда "Вершнік без галавы". Ня трэба, Аляксандар Рыгоравіч, чытаць на ноч жахлівых кніжак.

Кожнае зьяўленьне Цесаўца суправаджалася запальваньнем сьвятла ва ўсёй залі і здымалася дзьвюма відэакамэрамі. Пакажыце кадры, дзе мы з нажамі і лёзамі.

***"Я просил: учтите, нас провоцируют. Ни в коем случае, даже не царапните этого человека, поскольку будет гвалту на весь мир."***

Пазьняк сядзеў перада мною, і я бачыў, што яго білі з асаблівай жорсткасьцю. Адзін "гарыла" ударыў яго нагой у грудзі, другі круціў галаву і цісnуў вочы. Потым, калі выводзілі, Пазьняка білі аб сьцяну. Судова-мэдычная экспэртыза зафіксавала ў яго пяць пашкоджаньняў рознай цяжкасьці.

***"Да никто никого не бил, никто никого не ломал".***

Я якраз належу да тых нешматлікіх, каму дасталася менш. Бо сядзеў у цэнтры і калі зьлева пачалі круціць дэпутата Беленькага, спрабаваў нешта даказваць ім пра "дэпутатацкі імунітэт". Аднак хутка апынуўся са скручанымі рукамі. Потым так і валаклі да самага "варанка".

Але пасьпеў убачыць, як білі дубінкаю па сьпіне Віталя Малашку, Мікалая Крыжаноўскага з крэсла выцягвалі за шыю. Перада мной валаклі Беленькага — адзін з "пятністых" спэцназаўцаў падскочыў і нагой ударыў яго ў жывот.

***"Их препроводили по три человека в машину... Я говорю: больше машин пригоните. "Уазик", легковые машины, отвезите домой..."***

Нас кідалі па чатыры-пяць чалавек у жоўтыя "варанкі", прычым кідалі, пераважна, галавою ўперад. Нумар майго "варанка" быў 09-03 МИМ. Высадзілі нас у цэнтры горада. Аляксандра Шута перад тым як выпусьціць, яшчэ раз жорстка зьбілі дубінкамі.

***"Поэтому мы покажем народу эту пленку..., которая приводится в соответствие с тем, что мы должны вам показать".***

Можна ўявіць, што майстры фальсіфікацыяў пастараюцца, каб прывесьці "в соответствие". Але мы зьвярнуліся да прэзідэнта з патрабаваньнем выканаць хоць бы адно са сваіх шматлікіх абяцаньняў: паказаць па нацыянальным тэлебачаньні поўны (без купюраў!) відэазапіс нашага захопу і дэпартацыі з залы (2.45—3.10).

Гэты запіс павінен быць прад'яўлены і сьледчым пракуратуры. Зь некаторых "гарылаў" удалося сарваць маскі, і іх, відавочна, можна апазнаць. Як і таго бамбізу ў паўвайсковай форме, які камандаваў разам зь Цесаўцом і Каралёвым. Месца ўсіх гэтых людзей — на лаве падсудных.

# Хто намі будзе кіраваць

Беларусам прапануецца выбар: паміж вялікімі грашыма і вялікай ідэяй

Цяпер ужо ясна, што з парламанцкімі выбарамі прэзідэнт трапіў у даволі жорсткі цэйтнот. Па-сутнасьці, выканана толькі адна палова задачы: зь вялікім рыпам збудавана "вэртыкаль" і ў асноўным завершаны кадравыя перастаноўкі ў апараце выканаўчай улады. З гэтага боку праблема ўмацаваньня асабістай улады Лукашэнкі, можна лічыць, вырашаная. З пэўнымі дапушчэньнямі, бо, калі прадстаўніком прэзідэнта на месцы становіцца былы партыйны начальнік, чакаць ад яго поўнай лаяльнасьці цяжка (такіх выпадкаў дастаткова).

Горш іншае. Напярэдадні выбараў Лукашэнка ня мае ніякіх гарантыяў у тым, што атрымае паслухмяны Вярхоўны Савет. Хутчэй наадварот. "Сакрэтны" загад прэзідэнта вылучыць у кандыдаты міліцыянтаў — крок адчаю, які выклікае хіба што іронію.



Адсюль вынікаюць непаразуменьні з арганізацыяй выбарчай кампаніі. Напрыклад, зусім сьмешная сума выдаткаваная на гэтую мэту: 68 мільярдаў усяго і па 600 тысяч на кожнага брата-кандыдата. Пры гэтым прэзідэнт пагражае зьліквідаваць фірмы, якія прафінансуюць кандыдата ці зьняць з пасады апошняга, калі той выкарыстае службовую машыну.

Адкуль растуць вушы — уцяміць няцяжка. Аляксандар Рыгоравіч упусьціў час. Выбары яму зараз непатрэбныя, больш за тое — небясьпечныя. Цалкам верагодна, што паміж прэзідэнтам і новым парламантам будзе канфрантацыя.

Якія ж сілы імкнуцца ў Вярхоўны Савет?

### Камуністы

Зрэшты, камуністы і Лукашэнка — гэта аладкі з аднаго цеста, але пасмажаныя ў розны час. Розьніца, аднак, у тым, што адзін уладу мае, другія ж прагнуць рэваншу. Тут праходзіць водападзел.

Між іншым, памыляюцца тыя, хто лічыць ПКБ карыкатурнай арганізацыяй. Хоць бы таму, што за яе сьпіною маячыць цень КПБ. Пасьля 1991 г. вядомыя раней функцыянэры кампартыі зьніклі ў агульнай масе. І дзе ж яны цяпер?

Іхныя прозьвішчы мне даводзілася сустракаць у сьпісах праўленьняў даволі багатых банкаў, фірмаў, кампаніяў. Канечне, яны там на другіх-трэціх ролях, ды ім першыя і не патрэбныя. У нейкай ступені іхны посьпех можна растлумачыць вопытам аргработы і сувязямі. Але справа ня толькі ў гэтым.

У 1991—1993 гг. мне даволі часта даводзілася мець справу з матар'яламі па прыватызацыі прадпрыемстваў, сачыць за стварэньнем новых, на зьдзіўленьне моцных кампаніяў, паходжаньне якіх выклікала пэўныя сумненьні. Даводзілася гутарыць зь інфармаванымі людзьмі. Многія зь іх проста заяўлялі, што ніводная з сур'ёзных кампаній не была ўтвораная без удзелу дзяржаўных ці партыйных грошай.

Па-сутнасьці, сакрэт гэта невялікі. Але аб якім часта (відаць, наўмысна) забываюць. Канечне ж, ніхто напрамую грошы не ўкладваў: яны ішлі да месца прызначэньня праз ланцужок падстаўных пасярэднікаў. Сьляды губляюцца, а грошы ёсьць грошы — абярнуліся некалькі разоў — паспрабуй знайдзі іхнае паходжаньне.

Мне таксама вядомыя прозьвішчы 5—6 пасярэднікаў-ад'ютантаў, яны і цяпер у парадку. Выставіць супраць іх нейкія абвінавачваньні немагчыма і ня мае сэнсу. Ды і ня гэта галоўнае.

Сказанае дае права меркаваць пра існаваньне "чорнай касы". Мне невядома, хто ёю распараджаецца, але тое, што яна ёсьць — факт. Грошы, аднойчы ўкладзеныя ў справу, павінны, проста абавязаныя ўспліць у прызначаны час. Па ўсім відаць — у час выбараў.

Нельга лічыць, што за гэтымі грашыма стаіць толькі былая партнамэнклатура — тут усё пераплецена. Хутчэй можна гаварыць пра "старую гвардыю" партыйна-савецкага тылу, якая кантралявала і працягвае кантраляваць сітуацыю ў краіне. Іхная мэта даволі празрыстая — адрадзіцца ў новых умовах. І рэч ня ў тым, што ў гэтай краіне ўсё даўно падзелена і перадзелена. Задача ў тым, каб гэты перадзел замацаваць.

Безумоўна, вярхушка ПКБ — толькі вяршыня айсбэргу. Яна патрэбная з усімі сваімі лозунгамі і мітынгамі для зандажу грамадзкай думкі. Зь яе дапамогаю тыя, хто стаіць за ПКБ, ацэньваюць свае шанцы і атрымліваюць арыентыры. Ім, зразумела, не да сьветлай камуністычнай ідэі.

Як можна меркаваць, сацыяльная база ёсьць: незадаволеных цяперашнім рэжымам больш чым дастаткова. Пры гэтым неабавязкова ставіць менавіта на камуністаў. Ёсьць грошы, значыць, будуць і кандыдаты. Яны могуць быць ад прафсаюзаў, ад вэтэранаў, ды ці мала ад каго — гэта не праблема. Пагрозы ж Лукашэнкі датычаць у асноўным кандыдатаў ад Апазіцыі. "Своя своих познаша", — на парушэньні камуністаў прэзідэнцкія "апрычнікі" будуць закрываць вочы. Выбар такіх кандыдатаў "бацьку" якраз выгадны. Кропкі сутыкненьня паміж сабою яны, безумоўна, знойдуць. І ён і яны выдатна разумеюць, што камуфляж з "сумленнай палітыкай" і "сацыяльнай справядлівасьцю" — неабходная ўмова, цукерка для дурняў.

### Бізнэс і прамысловыя „бароны“

Тут, на першы погляд, справы зусім заблытаныя. Трэба адрозьніваць бізнэсмэнаў "кішэнных", узрошчаных дзяржавай і тых, хто падняўся самастойна, вырас зь першых каапэратываў (такіх, праўда, менш).

Калі першыя ў прынцыпе гатовыя падтрымаць галоўнага "боса" у галоўным, то другія — рэзка супраць яго. Але і ў тым, і ў другім выпадку на перадвыбарчую кампанію сваіх кандыдатаў яны патрацяць не па 600 тысяч бюджэтных рублёў. Сьмешна думаць, што людзі, якія апошнія некалькі гадоў толькі тым і займаюцца, што абыходзяць дзяржаўныя законы, ня знойдуць спосабу абысьці іх яшчэ раз.

Праўда, людзі бізнэсу знаходзяцца адначасова і ў самым нявыгадным становішчы — іх ніхто ня ведае. Акрамя таго, грамадзкая думка рэзка адмоўна ставіцца да "новых беларусаў". Але за імі — вялікія грошы.

Што датычыць прамысловасьці дзяржаўнай, то тут прасьцей. Думаю, працоўны калектыў, дзе выплочваюць рэгулярна зарплату, і дзе кожны рабочы рэальна баіцца страціць працу, ня будзе агітаваць супраць свайго дырэктара-кандыдата.

### Аграрыі

Шанцы быць выбранымі ў іх даволі невялікія. Зразумела, калі не агітаваць гарэлкай. Але і гэта можа не дапамагчы. У палітычным сэнсе вёска цяпер дастаткова аморфнае ўтварэньне. Згадзіцеся, калі чалавеку плоцяць па 30 тысяч раз у паўгода, ён проста ня пойдзе на выбары.

Рызыкую памыліцца, але думаю, што выбары на вёсцы будуць сарваныя. Тым больш, калі яны прызначаныя на самы гарачы час пасяўных работ. Ну і, зразумела, у вёскі замежных назіральнікі не паедуць — фальсіфікацыі вынікаў выбараў проста непазьбежныя. Сваё важкае слова "вэртыкаль" тут скажа.

Сумняваюся, што можна будзе назіраць дуэль дзьвюх сялянскіх партыяў: намэнклатурнай аграрнай і БСП, што прэтэндуе на дэмакратычнасьць. Трэба ўяўляць, хто быў і застаецца гаспадаром у вёсцы. У гэтым сэнсе яна выглядае палітычным запаведнікам, выключаючы, вядома, заходнюю Беларусь. Агракратыя, тым ня менш, пойдзе на ўсё, каб замацаваць свае пазіцыі ў будучым парламанце. Тут мы будзем назіраць усё знаёмае: непрыкрыты ціск на выбаршчыкаў, фальсіфікацыі, правакацыі.

Безумоўна, вёска ўжо далёка ня тая, што была. Але гэта нічога ня значыць: рысы прыгоннага права ў ёй выпіраюць на кожным кроку. Нешматлікае фэрмэрства нагадвае экспанаты музэю пад адкрытым небам і самастойнай палітычнай ролі не адыгрывае.

### БНФ плюс іншыя

Менавіта ў такім парадку трэба аналізаваць магчымасьці дэмакратаў. Менавіта — БНФ і іншыя. Стракатасьць палітычнага лагеру дэмакратаў не павінна ўводзіць у зман. Народ ведае, хто такі Пазьняк і што такое БНФ. Вядомасьць і аўтарытэт, скажам, Карпенкі — на парадак ніжэй, ня кажучы пра іншых. Калі хочаце, БНФ — гэта ўжо сімвал, нешта з разраду легендаў і паданьняў. Менавіта таму дэмакратычны блок, на маю думку, павінен быў складацца з такой пасьлядоўнасьці: БНФ плюс іншыя партыі дэмакратычнага накірунку. Аднак перамаглі амбіцыі некаторых лідараў і ў лагеры дэмакратаў мы назіраем пэўную разьяднанасьць. Так ужо было на прэзідэнцкіх выбарах. Калі паўторыцца і на парламанцкіх — параза дэмакратам забясьпечаная. Нават захаваньне тых 10% месцаў, якія мела Апазіцыя ў старым Вярхоўным Савеце — безумоўна, параза. Гэта значыць, рух да сапраўднай дэмакратыі і рынкавай эканомікі прыпыніцца яшчэ на некалькі гадоў.

Апазіцыя знаходзіцца ў самым нявыгадным становішчы. За кожным яе крокам будуць назіраць сотні "государевых очей", права на памылку яна ня мае. На "грошы ЦРУ" (любімая тэма замяталіных і посахавых, ды і самога Лукашэнкі) разьлічваць не даводзіцца. Галоўная стаўка БНФ — прапанаваная альтэрнатыва: свабода, рэформы, дэмакратыя, незаплямленасьць карупцыяй і хлусьнёй. Гэта — і многа, і мала.

Тым больш, трэба ўлічваць тыя стратэгічныя памылкі, якія зрабіў Фронт напачатку. Па-першае, стаўка на нацыянальную ідэю не дае посьпеху ў краіне, якую напрацягу ўсёй яе гісторыі рвалі паміж Захадам і Усходам, а апошнія два стагодзьдзі ўзмоцнена каланізавалі. Па-другое, пэўнае неразуменьне псіхалогіі народу, які хутчэй гатовы слухаць прыгожую хлусьню чарговага лукашэнкі, чым горкую праўду.

У прынцыпе, становішча ў краіне складваецца цяпер на карысьць дэмакратаў. Праблема ў тым, каб правільна яго выкарыстаць...

### Бітва Давіда з Галіяфам

Аб'ектыўным назіральнікам яшчэ ў 1989 г. стала ясна, што палітычную сітуацыю на Беларусі ў бліжэйшыя 10—15 гадоў будзе вызначаць барацьба дзьвюх сілаў. Першую можна пазначыць як кангламерат старой і новай партдзяржнамэнклатуры. Між імі могуць узьнікаць (і ўзьнікаюць) супярэчнасьці, што датычаць кантролю над уласнасьцю (хто ёй валодае, той валодае ўладай; зусім нездарма Лукашэнка ўзяўся за рэвізію прыватызацыі, якая ішла да яго — "маладыя ваўкі" запатрабавалі сваёй долі). Аднак мэты і мэтады і "старых", і "маладых" нічым не адрозьніваюцца. Гаворачы фігуральна, гэтая зграя у момант небясьпекі дзейнічае ўзгоднена.

Другая сіла — дэмакратычны лагер на чале з БНФ. Недастаткова згуртаваны, з абмежаванымі магчымасьцямі, некалькі амбітны, але, пры ўсім гэтым, ён зьяўляецца сур'ёзнай процівагай намэнклатуры.

Першая спроба сілаў скончылася ў 1989—90 гг. перамогай "старой гвардыі". Мінулы год вывеў на арэну "гвардыю маладую". У абодвух выпадках дэмакраты прайгралі. Гэта ня значыць, што Бог тройцу любіць і на гэтых выбарах Фронт свайго даб'ецца. Скажам так: ёсьць магчымасьць перамагчы. Пры ўдалым зьбегу акалічнасьцяў яе можна выкарыстаць. Калі ня ўдасца — будзе сумна і кепска... Але не катастрафічна.

**Андрэй СЯРЖАН**



На здымку: лідар менскіх камуністаў Віктар Чыкін не губляе надзеі

